**Пачаўся Год Духа Святога**

Папа Ян Павел II распачаў другі год падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею 2000 Года і даручыў яго асаблівай апецы Найсвяцейшай Марыі Панны. Прамаўляючы 30 лістапада перад малітвай Анёл Панскі, ён сказаў, што гэты год будзе "асабліва прысвечаны Духу Святому і Яго асвячальнай прысутнасці ў супольнасці вучняў Хрыста". Папа нагадаў, што вернікі пакліканыя да паўторнага адкрыцця гэтага дару, якім ёсць Дух Божы, "функцыя якога параўнальная з функцыяй душы ў целе чалавека".

Ян Павел II заклікаў, каб сёлета вернікі маліліся і працавалі для еднасці Касцёла, да якой вядуць дары і харызматы Духа. Узгадваючы словы дакумента *Tertio millennio adveniente*, Папа выказаў жаданне, каб Бог прыспешыў еднасць усіх хрысціянаў, каб можна было перакрочыць 2000 год, будучы "калі не цалкам з'яднанымі, то прынамсі нашмат бліжэйшымі да перамогі падзелаў, якія ўзніклі ў другім тысячагоддзі". (KAI)



**Пасланне Святога Айца на Сусветны дзень спакою**

Кіраўнік Папскай рады "Iustitia et Pax" французскі кардынал Роджэр Эчэгары разам са сваімі супрацоўнікамі прадставіў у Ватыкане пасланне Яна Паўла II на XXXI Сусветны дзень спакою, які заўсёды адзначаецца 1 студзеня.

Кіраўнік рады звярнуў увагу, што ўпершыню такі дакумент адрасаваны перадусім да кіраўнікоў дзяржаў і змяшчае заклік пашыраць "культуру законнасці" ў жыцці краінаў і міжнароднай супольнасці. Другі важны пункт дакумента – клопат аб тым, каб т.зв. глабалізацыя гаспадаркі і фінансаў "адбывалася ў атмасферы салідарнасці і не вяла да маргіналізацыі" (п.3) асобаў і цэлых народаў. У гэтым кантэксце Ян Павел II падымае пытанне аб міжнароднай запазычанасці, паўтараючы змешчаны ў апостальскім лісце "Tertio millennio adveniente" заклік аб яе змяншэнні альбо ліквідацыі ў сувязі з юбілеем 2000 года і выказваючы перакананне, што "для гэтага багатыя краіны могуць зрабіць шмат" (п.4). У пасланні Папа шмат увагі прысвячае з'яве карупцыі (п.5).

Галоўным момантам паслання, як лічыць французскі кардынал, з'яўляецца пытанне падзелу на свет багатых і свет бедных. "Мы не можам пагадзіцца, каб у свеце побач жылі людзі празмерна багатыя і крайне ўбогія; жабракі, якія не маюць нават прадметаў першай неабходнасці і тыя, хто бясклапотна марнуе даброты, так неабходныя іншым" (п.4). (KAI)



**Адбыўся Сінод Біскупаў для Амерыкі**

З 18 лістапада амаль месяц у Ватыкане працягвалася праца Сіноду Біскупаў для Амерыкі. Падчас першага этапу працаў на пасяджэннях выступілі 193 Айцы Сіноду. Найчасцей выступоўцы казалі аб праблемах правоў чалавека і салідарнасці, аб евангелізацыі і місіі, святасці і духавенстве, катэхізацыі, свецкіх, экуменічным дыялогу, сакрамэнтах, сродках масавай інфармацыі, моладзі, эканамічнай залежнасці краінаў і інш. Затым усе ўдзельнікі Сіноду некалькі дзён працавалі ў 12 моўных групах, пасля чаго прыступілі да выпрацоўкі канчатковых прапановаў, якія напярэдадні завяршэння пасяджэнняў былі прадстаўлены Святому Айцу. Звычайна па выніках пасяджэнняў Сіноду Біскупаў Папа выдае спецыяльную Апостальскую адгартацыю, прысвечаную той ці іншай тэме. (KAI)



**Ян Павел II нагадаў заклік з Фацімы**

"Штодня адгаворвайце ружанец", – гэты заклік Маці Божай Фацімскай нагадаў Ян Павел II бацькам і касцёльным супольнасцям у пасланні, накіраваным біскупу Фацімы з нагоды 80-годдзя апошняга з шасці фацімскіх аб'яўленняў. У апублікаваным у Ватыкане 14 кастрычніка пасланні Папа падкрэсліў, што Магістэрый Касцёла горача раіць адгаворваць ружанцовую малітву. Ён звярнуўся да душпастыраў з просьбай, каб яны маліліся ружанцовай малітвай і вучылі ёй свае хрысціянскія супольнасці.

"Здаецца, што сучасная культура ў значнай меры згубіла пачуццё істотнай сувязі, якая існуе паміж ісцінай, дабром і свабодай", – сказаў Ян Павел II удзельнікам пленарнага пасяджэння Кангрэгацыі Навукі Веры, якое адбылося ў кастрычніку ў Ватыкане. У сваім выступленні Папа адзначыў, што "знайсці натуральнае вырашэнне сур'ёзных праблемаў, якія з усё большай сілай патрабуюць згоднага з праўдай і дабром адказу, можна толькі тады, калі наноў будуць адшуканыя антрапалагічныя і хрысталагічныя асновы хрысціянскай маралі". "Дабром асобы, – казаў далей Святы Айцец, – з'яўляецца быццё ў праўдзе і стварэнне праўды ў любові. Гэтая істотная сувязь "ісціна-дабро-свабода" ў значнай меры згублена сучаснай культурай, і таму адна з задачаў місіі Касцёла, пакліканага дзейнічаць для збаўлення свету, – прывесці чалавека да адкрыцця гэтай сувязі". (KAI)



**Папа заклікае да справядлівага падзелу прыродных рэсурсаў**

Папа Ян Павел II заклікаў да справядлівага падзелу прыродных рэсурсаў. З нагоды Сусветнага дня харчавання ён падкрэсліў, што стварэнне "ўласцівых палітычных, гаспадарчых і экалагічных умоваў" з'яўляецца абавязковым для забеспячэння харчаваннем усяго чалавецтва.

Папскі зварот падчас цэнтральных святкаванняў Сусветнага дня харчавання ў сядзібе Міжнароднай арганізацыі харчавання і земляробства (FAO) ў Рыме 16 кастрычніка абвясціў арцыбіскуп Алёйз Вагнэр, пастаянны назіральнік Ватыкану пры гэтай арганізацыі. Зварот Яна Паўла II падкрэслівае, што патрэбны не толькі адпаведныя палітычныя рашэнні, але таксама як найхутчэйшая змена падыходу да спосабу распараджэння харчовымі рэзервамі.

Падчас гэтай урачыстасці ў Рыме кароль Непалу заявіў, што ў свеце ад недаядання і голаду штогод памірае 18 млн. чалавек.



**Ватыкан лічыць неабходным улік культурных каштоўнасцяў**

На думку Ватыкана, празрыстасць межаў у Еўропе ўскладняе ахову твораў мастацтва. Таму неабходнай з'яўляецца інвентарызацыя культурных каштоўнасцяў, якімі валодае Касцёл, – гаворыцца ў апублікаваным 9 снежня ў Вене звароце кіраўніка Папскай рады па пытаннях касцёльных культурных каштоўнасцяў арцыбіскупа Франчэско Маркісано.

Падчас штогадовай канферэнцыі нямецкамоўных рэстаўратараў сакральнага мастацтва арцыбіскуп Маркісано адзначыў, што каштоўныя творы сакральнага мастацтва не павінны перадавацца з касцёлаў у музеі. Яны павінны заставацца ў сваім першасным асяроддзі, каб не страцілі сакральнай функцыі. На думку арцыбіскупа, цяпер Касцёл пачынае нанова адкрываць пастаральнае значэнне "мовы абразоў" для пераказу веры. Неабходна ахоўваць "велізарную спадчыну сакральнага мастацтва", бо "праз творы мастацтва людзі знаходзяць шлях да веры і духоўнасці сваіх продкаў", – падкрэсліў арцыбіскуп Мархісано. (KAI/KNA)



### Агенцтва "Фідэс" аспрэчвае паведамленні Кітая пра свабоду рэлігій

Дакумент, прысвечаны рэлігійнай сітуацыі ў Кітаі, які ў кастрычніку выдалі ўлады гэтай камуністычнай краіны, скажае сапраўдную рэчаіснасць рэлігійнага пераследу, – сцвярджае Міжнароднае агенцтва "Фідэс", якое існуе пры Кангрэгацыі евангелізацыі народаў. У матэрыяле агенцтва падкрэсліваецца, што дакумент, падрыхтаваны ў Пекіне, – гэта прапагандысцкі манеўр дзеля аслаблення крытыкі кітайскага кіраўніка Янь Земіня напярэдадні ягонага візіту ў ЗША. "Фідэс" абвінавачвае кітайскі ўрад у скажэнні рэальнай лічбы католікаў у краіне. Агенцтва мяркуе, што афіцыйныя звесткі аб іх колькасці – 4 млн. чалавек – улічваюць толькі членаў афіцыйнага Касцёла. Арганізацыі аховы правоў чалавека пастаянна нагадваюць у сваіх рапартах, што ў Кітаі жыве 8 млн. верных Папе католікаў, якія падвяргаюцца пераследу ўладаў. Агенцтва "Фідэс" падкрэслівае, што ігнараванне гэтых вернікаў афіцыйнай статыстыкай не азначае іх адсутнасць у краіне.

"Фідэс" мяркуе, што ў снежні мінулага году ў Кітаі ў 138 дыяцэзіях жыло 10 млн. католікаў. Імі апекаваліся 70 біскупаў афіцыйнага Касцёла і 60 – падпольнага. Лічыцца, што ў кожным з гэтых Касцёлаў ёсць каля 1 тыс. святароў і каля 2 тыс. законніц і законнікаў. Тысяча семінарыстаў рыхтуецца да святарства ў 24 прызнаных урадам семінарыях і яшчэ 700 семінарыстаў у 10 нелегальных семінарыях. У 40 афіцыйных навіцыятах праходзяць фармацыю 1,5 тыс. законніцаў і 1 тыс. у неафіцыйных.



### "Osservatore Romano" крытыкуе рашэнне Шведскай акадэміі навук

Ватыканская штодзённая газета "L'Osservatore Romano" выказала незадавальненне прысуджэннем сёлетняй Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры італьянскаму сатырыку Дарыо Фо. У каментары да гэтай падзеі газета напісала, што многія былі здзіўлены рашэннем шведскага журы, а шматлікія прадстаўнікі свету культуры не хаваюць, што яны ўражаны.

Апошнім часам літаратурную Нобелеўскую прэмію атрымліваюць малазначныя аўтары, – заўважае выданне. "Аднак прысуджэнне гэтай узнагароды актору, да таго ж аўтару неадназначных тэкстаў (незалежна ад іх маральнай вартасці) было абсалютна нечаканым, – заўважаецца ў каментары пад загалоўкам "Прыдворны камедыянт".

Стакгольмскае журы падкрэсліла, што вядомы сваімі лявацкімі поглядамі 71-гадовы Фо "ўжо 30 гадоў з'яўляецца асаблівай постаццю ў еўрапейскім палітычным тэатры, які асуджае ўладу і вяртае годнасць прыніжаным". Паказаная тэлебачаннем у 1977г. пастаноўка "Misterium buffo" сёлетняга нобелеўскага лаўрэата была асуджаная Ватыканам як "самы блюзнерскі спектакль у гісторыі тэлебачання".



### Апостальская Сталіца супраць легалізацыі "мяккіх" наркотыкаў

Падчас кангрэсу па праблеме наркаманіі, які адбыўся ў Ватыкане ў кастрычніку, сакратар стану Апостальскай Сталіцы кардынал Анджэло Садано заявіў, што легалізацыя нават "мяккіх" наркотыў была б крокам у заганным кірунку. Гэта выклікала б вялікую рызыку для здароўя людзей, запатрабавала ад грамадства значных выдаткаў і, адначасова, не зменшыла б колькасці злачынстваў, звязаных з гандлем наркотыкамі," – сказаў кардынал. Ён дадаў, што "наркотыкі – гэта зло, і нельга яму саступаць".

## КОРАТКА

**Маркі.** Шасці сёлетнім пілігрымкам Папы – у Лацінскую Амерыку, Туніс, Славенію, Германію, Венгрыю і Францыю – прысвечана серыя марак, якую выпусціла ў лістападзе Ватыканская пошта.

**Візіты Папы.** Ужо цяпер акрэдытавана звыш 2 тыс. журналістаў, якія маюць намер асвятляць візіт Яна Паўла II на Кубу з 21 да 25 студзеня 1998г.

• Мяркуецца, што ў сакавіку 1998г. Папа Ян Павел II наведае Нігерыю.

• На чэрвень 1998г. запланаваны візіт Яна Паўла II у Аўстрыю.

• Кардынал Карлас Ав'еда Кабада, арцыбіскуп Сант'яга-дэ-Чылі, паведаміў, што Ян Павел II мае намер ў кастрычніку 1998г. здзейсніць пілігрымку ў Чылі.

• Канферэнцыя Епіскапату Мексікі паведаміла, што Ян Павел II запрошаны наведаць чарговы раз краіну ў наступным годзе. Візіт, напэўна, адбудзецца ў снежні і падчас яго Папа абвесціць паслясінадальную адгартацыю на тэму Амерыканскага кантыненту.

**Дабрачыннасць.** Папа Ян Павел II перадаў 200 тыс. даляраў ААН. Грошы прызначаны для дапамогі бежанцам у Руандзе, Анголе і балканскіх краінах.

**Мас-медыя.** Тэмай наступнага, 32-га, Сусветнага дня сродкаў масавай інфармацыі Ян Павел II выбраў словы "Дзякуючы дапамозе Духа Святога даем надзею".

**Прызначэнне.** Кардынал Эдмунд Шока, продкі якога паходзілі з-пад Гродна, прызначаны старшынёй Папскай камісіі дзяржавыгорада Ватыкана. Будучы з 1990г. кіраўніком Прэфектуры гаспадарчых спраў Апостальскай Сталіцы, ён адказваў за бюджэт Ватыкана, які за апошнія гады набыў стабільнасць.

**Канцэрт.** Сёлета ў штогадовым калядным канцэрце ў Ватыкане (на якім звычайна прысутнічае Святы Айцец) удзельнічалі славуты джазавы музыкант Бі-Бі-Кінг, спявачка Мірэй Мацье, італьянскі пап-спявак Масімо Раньеры, акторка Моніка Віці, фольк-гурт з Партугаліі "Мадрэдэус" і аркестр з Монтэ-Карла.

## АБВЕШЧАНА ТЭМА ЧАРГОВАГА ТЫДНЯ МАЛІТВАЎ АБ ЕДНАСЦІ ХРЫСЦІЯНАЎ

Сусветная рада цэркваў (СРЦ) разам з Папскай радай садзеяння еднасці хрысціянаў абвясцілі тэму будучага Тыдня малітваў аб еднасці хрысціянаў. Яна паходзіць з Паслання да Рымлянаў: "Дух мацуе нас у слабасцях нашых" (пар.Рым 8,26). Тыдзень малітваў, які штогод адбываецца з 18 да 25 студзеня, мае больш чым 60-гадовую традыцыю. Тыдзень, які адбудзецца ў наступным годзе, стане трыццатым па ліку, падрыхтаваным супольна пратэстантамі, праваслаўнымі і каталікамі.

Агульную тэму Тыдня малітваў аб еднасці хрысціянаў канкрэтызуюць тэмы на кожны дзень:

1. "Бо ўсе, Духам Божым ведзеныя, – Сыны Божыя" (пар.Рым 8,14);
2. "... прынялі Духа ўсынаўлення" (пар.Рым 8,15);
3. "... наследнікі Божыя, наследнікі супольна з Хрыстом" (пар.Рым 8,17);
4. "... славаю, якая адкрыецца ў нас" (пар.Рым 8,18);
5. "... усё стварэнне стогне й мучыцца (...), і мы ў сабе стогнем" (пар.Рым 8,22-23);
6. "Бо мы вызвалены надзеяй" (пар.Рым 8,24);
7. "... Дух дапамагае ў слабасцях нашых" (пар.Рым 8,26);
8. "Дух (...) рупіцца за святых" (пар.Рым 8,27).

Галоўная мэта кожнага Тыдня – гэта малітвы да Бога аб узаемапазнанні і паразуменні хрысціянаў, аб поўнай еднасці Касцёла.

У 1935г. каталіцкі святар Пол Кутур'е (1881–1953) з Ліёна арганізаваў у сваім горадзе міжканфесійныя набажэнствы аб еднасці, прапанаваўшы, каб гэта была супольная малітва аб еднасці, якой хоча Хрыстус. Падчас Другой сусветнай вайны малітоўныя спатканні адбываліся неафіцыйна. Пасля 1945г. ініцыятыву праявілі некаторыя некаталіцкія асяроддзі. З 1957г. тэксты асноўных малітваў і тэмы асобных Тыдняў у рамках нефармальнага супрацоўніцтва разам складалі камісія "Вера і лад" СРЦ і каталіцкі цэнтр "Юнітэ крэцьен" у Ліёне. З 1966г. СРЦ і Каталіцкі Касцёл супрацоўнічаюць у гэтай сферы. Упершыню тэма Тыдня супольна была прапанавана ў 1968г. Цяпер у склад групы СРЦ і Каталіцкага Касцёла ўваходзяць пратэстанцкія, праваслаўныя, стара- і рымска-каталіцкія літургісты, біблісты і тэолагі.

Э. Ю., КАІ *(скар.)*

## *Арцыбіскуп Марціно звярнуўся да членаў ААН пра беды дзяцей*

Пастаянны назіральнік Апостальскай Сталіцы пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый арцыбіскуп Рэнато Марціно ў спецыяльным рапарце заклікаў членаў гэтай арганізацыі прыкласці намаганні да паляпшэння жыцця дзяцей. У пасланні да работнікаў ААН, якія займаюцца праблемамі харчавання ў свеце, ён заўважыў, што голад у свеце – гэта вынік не недахопу ежы, а "чалавечых прыярытэтаў і благіх палітычных рашэнняў". Арцыбіскуп заявіў, што "незразумела", чаму кіраўнікі свету пагаджаюцца з сітуацыяй, калі па ўсім свеце дзецям пагражае перспектыва прастытуцыі, ужывання наркотыкаў і зброі. Ён таксама асудзіў выкарыстанне дзяцей у якасці працоўнай сілы з мэтай атрымання матэрыяльнай карысці. "650 млн. дзяцей ва ўсім свеце пакутуюць, бо жывуць ва ўмовах, якія нават цяжка ўявіць",– напісаў арцыбіскуп Марціно. Ён дадаў, што каля 2 млн. дзяцей выкарыстоўваюцца ў мэтах прастытуцыі і не менш як 250 млн. працуе ў небяспечных альбо шкодных для здароўя ўмовах.

Каб змяніць гэтае становішча, неабходна, на думку арцыбіскупа Марціно, выразна сцвердзіць, "што кожнае дзіця мае сваё права, бо з'яўляецца чалавекам". На заканчэнне ён дадаў, што найлепшая гарантыя абароны правоў дзяцей – гэта ахова сям'і.

Закранаючы ў асобным дакуменце пытанні спажывання ў свеце і бедства голаду, якое існуе ў некаторых раёнах зямлі, арцыбіскуп заявіў, што небяспеку голаду выклікае не недахоп харчавання, а "прыярытэты людзей і недасканалыя палітычныя рашэнні". "Даследаванні пацвярджаюць, што на планеце дастаткова харчавання, каб задаволіць патрэбы ўсіх",– паінфармаваў прадстаўнік Ватыкана і дадаў, што за нястачай харчавання ў некаторых раёнах свету стаяць памылковыя эканамічныя і палітычныя рашэнні. Пры гэтым ён звярнуў увагу, што харчавання не хапае пераважна дзецям і жанчынам. (KAI/CWN/CNS)

## *30 млн. жыхароў зямлі інфіцыраваны вірусам СНІДу*

Нягледзячы на прагрэс у метадах лячэння, у свеце імкліва ўзрастае лічба хворых на СНІД і інфіцыраваных гэтым вірусам. У 1997г. 30 млн. чалавек, у т.л. 1,1 млн. дзяцей да 15-гадовага ўзросту былі носьбітамі смяротнага віруса (г.зн., што носьбітам СНІДу з'яўляецца кожны дзесяты чалавек у сталым узросце). Гэтая лічба штодзень павялічваецца на 16 тыс. Такія факты паведамілі арганізацыі UNAIDS і Сусветная арганізацыя аховы здароўя (WHO). Паводле прагнозу ААН, калі захаваецца цяперашняя тэндэнцыя, то да 2000г. лік інфіцыраваных вірусам у свеце ўзрасце да 40 млн. чалавек. Паводле гэтых жа дадзеных, на працягу 1997г. памерла 2,3 млн. хворых на СНІД, што на 50% больш, чым у мінулым годзе. Найгоршае становішча ў гэтай сферы ў краінах Паўднёвай Афрыкі, Паўднёва-Усходняй Азіі і Карыбаў. У афрыканскай Батсване, напрыклад, кожны пяты жыхар з'яўляецца носьбітам смяротнага віруса. Такі ж працэнт інфіцыраваных сярод цяжарных жанчынаў Камбоджы. У Індыі ўжо сёлета прагназуецца павелічэнне колькасці інфіцыраваных да 3-5 млн. чалавек. Адначасова пачала змяншацца лічба інфіцыраваных у прамыслова развітых краінах. У ЗША іх лік сёлета зменшыўся на 6%. (KAI/KNA)

## *Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю ў абарону дзяцей*

Еўрапейскі парламент падтрымаў рэзалюцыю, у якой асуджае выкарыстанне дзяцей у мэтах сексу. У дакуменце, які быў прыняты 20 лістапада, парламентарысты патрабуюць "поўнай забароны вытворчасці, продажу і валодання матэрыяламі, якія заахвочваюць сексуальнае выкарыстанне дзяцей". Рэзалюцыя таксама заклікае краіны-ўдзельніцы Еўрапарламенту выкрываць злачынствы супраць дзяцей на сексуальнай глебе і караць іх выканаўцаў. (KAI/KNA)

### *Прадстаўнік Ватыкана – пра адказнасць у рэкламе*

Старшыня Папскай рады сродкаў масавай інфармацыі арцыбіскуп Джон Фолі падчас штогадовага сходу Сусветнай федэрацыі рэкламы ў Жэневе звярнуўся з заклікам аб захаванні маральнай адказнасці ў рэкламе. Ён крытычна ацаніў той факт, што многія рэкламныя публікацыі граюць на чалавечых слабасцях і развіваюць негатыўныя тэндэнцыі.

"Мабыць, не трэба нагадваць, што для продажу тавараў выкарыстоўваецца секс такім чынам, які абсалютна не звязаны з гэтым вырабам," – сказаў арцыбіскуп. Ён падкрэсліў, што заўсёды трэба шукаць раўнавагу паміж эканамічным, сацыяльным і этычным аспектамі рэкламы. Адначасова ватыканскі іерарх заўважыў, што Касцёлу шмат у чым можна павучыцца ў прафесіяналаў рэкламы, калі гаворка ідзе пра развіццё "аднаго з найвялікшых рэкламных пачынанняў усіх вякоў, якое мы называем евангелізацыяй".

У канцы лютага г.г. кіраваная арцыбіскупам Фолі Папская рада сродкаў масавай інфармацыі апублікавала дакумент на тэму этыкі ў рэкламе. (KAI)

### *ЗША:*
### *Патрыярх Барталамей з візітам у ЗША*

Сусветны Канстанцінопальскі патрыярх Барталамей 19 кастрычніка пачаў свой візіт у ЗША, які працягваўся месяц. Ён наведаў 16 гарадоў, сустрэўся з прэзідэнтам краіны Білам Клінтанам.

У адзін з першых дзён візіту патрыярху была ўручана найвышэйшая ўзнагарода амерыканскага кангрэсу – Залаты медаль. Падчас урачыстасці Барталамей І падзякаваў амерыканцам за падтрымку Праваслаўнай Царквы ва Усходняй Еўропе ў перыяд камуністычных рэжымаў. Пад апладысменты прысутных Патрыярх прыгадаў, што свабода рэлігіі – гэта адзін з фундаментаў амерыканскай дэмакратыі. Раней Залатым медалём ужо былі ўзнагароджаныя 4 прадстаўнікі рэлігійнага жыцця, у тым ліку Маці Тэрэса з Калькуты.

23 кастрычніка па запрашэнні кардынала Уільяма Кілера Патрыярх Барталамей удзельнічаў у "набажэнстве малітвы і падзякі" ў каталіцкай катэдры ў Балціморы. 26 кастрычніка ў нядзельнай Святой Літургіі, якую Канстанцінопальскі патрыярх адслужыў у Мэдзісон-Парку ў Нью-Ёрку, удзельнічала 20 тыс. вернікаў. 1 лістапада Барталамей наведаў Чыкага, дзе яго горача віталі 5 тыс. праваслаўных вернікаў.

У свеце налічваецца звыш 350 млн. праваслаўных вернікаў Канстанцінопальскага Патрыярхату. У ЗША жыве больш 8 млн. праваслаўных грэцкага, расійскага і арабскага паходжання. (Паводле KAI)

### *Біскупы заклікаюць спыніць выкананне смяротных прысудаў*

Увесь Епіскапат амерыканскага штату Тэхас (21 біскуп) падпісаў заяву, у якой заклікае спыніць выкананне смяротнага пакарання. У сваім дакуменце біскупы сцвярджаюць, што свецкія ўлады штату "узурпуюць Божую ўладу над жыццём чалавека" і гэткім чынам далучаюцца да стварэння атмасферы гвалту. Каталіцкія іерархі лічаць, што найвышэйшай мерай павінна быць пажыццёвае пакаранне. (KAI)

### *ТУРЦЫЯ:*
### *Замах на сядзібу Канстанцінопальскага Патрыярхата*

Папа Ян Павел ІІ выказаў шкадаванне з прычыны замаху на сядзібу Сусветнага Канстанцінопальскага Патрыярхата. У тэлеграме, накіраванай ганароваму кіраўніку праваслаўя, Сусветнаму Патрыярху Барталамею І, Папа выказаў сваю салідарнасць і запэўніў, што просіць Божай апекі для ўсіх, каго закранула гэта трагедыя.

З снежня ў выніку ўзрыву бомбы ў будынку Сусветнага Патрыярхата ў Стамбуле быў паранены святар. Турэцкія ўлады асудзілі замах і назвалі яго тэрарыстычным актам. Дагэтуль невядома, хто і з якой мэтай учыніў замах. Магчыма, што гэты тэрарыстычны акт з'яўляецца адказам мусульманскіх экстрэмістаў на замах на мячэць недалёка ад Ксанці, мястэчка ў Заходняй Фракіі, што належыць Грэцыі. Замах здзейснілі напярэдадні акту ў Стамбуле грэцкія правыя. (KAI/KNA)

### *ІНДЫЯ:*
### *Святар адмовіўся ад узнагароды*

Рэдэмптарыст кс.Томас Кохэры, нефармальны лідар 8 млн. рыбакоў Індыі і заснавальнік Нацыянальнай асацыяцыі работнікаў мора, адмовіўся прыняць узнагароду ў суме 150 тыс. даляраў, якую прысудзіў яму дабрачынны фонд *Pew* з амерыканскага штату Масачусетс. Святар назваў узнагароду, аплочаную *Sun Oil Company*, "крывавымі грашыма". Гэта кампанія "з'яўляецца адным з найгоршых атручвальнікаў мора; я здрадзіў бы рыбакам, калі б прыняў узнагароду",– заявіў кс.Кахэры. У 70-я гады святар кожны дзень працаваў разам з рыбакамі, а пазней ініцыяваў кампанію абароны іх правоў. (KAI/CWN)

### *РУМЫНІЯ:*
### *Многія святары супрацоўнічалі са спецслужбамі*

80% духавенства Румынскай Праваслаўнай Царквы ў мінулым супрацоўнічала з тайнай паліцыяй Сэкурытатэ, – заявіў былы афіцэр гэтай арганізацыі палкоўнік Сіма на старонках сталічнага штодзённіка "Libertatea". Улады Румыніі паведамілі аб раскрыцці архіваў Сэкурытатэ. Кіраўнікі Праваслаўнай Царквы выказалі здзіўленне гэтым рашэннем. Дагэтуль толькі адзін румынскі архіерэй – Ніколэ Карнэану, мітрапаліт Цімішаару, – прызнаўся ў супрацоўніцтве са спецслужбамі краіны.(KAI)

### *СЛАВЕНІЯ:*
### *Пасяджэнне Епіскапату*

Неабходнасць рэгулявання адносінаў дзяржавы і Касцёла, вяртанне канфіскаванай некалі камуністамі маёмасці і супрацьдзеянне абортам сталі асноўнымі тэмамі пленарнага пасяджэння Епіскапату ў Любляне. Біскупы абмяркоўвалі таксама стан падрыхтоўкі першага Сіноду Касцёла ў гэтай краіне, які павінен пачацца напрыканцы году, і пытанне новага перакладу на славенскую мову літургічных кніг. (KAI/IKA)

## ГЕРМАНІЯ: **Біблія для дзяцей выдадзена на 100 мовах**

Інфармацыйнае агенцтва КАІ інфармуе, што сотай мовай, на якой міжнародная арганізацыя *"Kirche in Not"* (Царква ў патрэбе) з Германіі выдала падрыхтаваную ёю Біблію для дзяцей, стала мова мапундунгун, якой карыстаецца індзейская народнасць мапушэ ў Чылі. Да апошняга часу гэтая народнасць, якая налічвае амаль мільён чалавек, не мела сваёй пісьмовай мовы. Яе нядаўна выпрацаваў Інстытут мовы і культуры індзейцаў (Instituto Indigena) пры Каталіцкім універсітэце ў Тэмуко.

Выданне Бібліі для дзяцей вядзецца з 1979г. і з'яўляецца адным з найбольшых праектаў арганізацыі "Kirche in Not". Яе агульны наклад да верасня 1997г. склаў 32,7 млн. асобнікаў. У 1992г. гэтае выданне пад назвай "Бог гаворыць да сваіх дзетак: Біблейскія апавяданні" выйшла ў перакладзе на беларускую мову. (Паводле КАІ)

## Кніжная ярмарка ў Франкфурце

Выдавецтва "Weltbild" з Аўстрыі прадставіла на міжнароднай кніжнай ярмарцы ў Франкфурце-на-Майне Біблію з ілюстрацыямі Сальвадора Далі. У 1964–1966г. славуты мастак выканаў да апошняга часу невядомы цыкл 105 з малюнкаў, зробленых у розных тэхніках, для сям'і сваіх сяброў з Фларэнцыі. Раней аўстрыйскае выдавецтва надрукавала Біблію з ілюстрацыямі Марка Шагала і Фрыдэнсрайха Хундэртвасэра. (KAI/KNA).

З нагоды ярмаркі ў Франкфурце адбылася штогадовая сустрэча Таварыства еўрапейскіх выдаўцоў каталіцкіх кніг (ELCE), у якой удзельнічалі прадстаўнікі каталіцкіх выдавецтваў з 12 краінаў. (КАІ)

## ІСПАНІЯ: **Канферэнцыя "Інтэрнэт у дзейнасці і статыстыцы Касцёла"**

У Мадрыдзе адбылася канферэнцыя на тэму "Інтэрнэт у дзейнасці і статыстыцы Касцёла", у якой удзельнічалі больш за 120 дэлегатаў з амаль усіх іспанскіх дыяцэзій і некаторых касцёльных аб'яднанняў. Канферэнцыю арганізавала Бюро статыстыкі і сацыялогіі Іспанскай Канферэнцыі Біскупаў, якая адказвае за старонку Епіскапата ў Інтэрнэце.

Прафесар сацыялогіі Мадрыдскага універсітэта Карла III Санцьяга Лёрэнтэ падкрэсліў у сваім рэфераце, што калі Касцёл жадае канкурыраваць на вольным рынку ідэй, ацэнак і інфармацыі, то павінен прадставіць прадукт найлепшай якасці. Прамоўца звярнуў увагу на асаблівую ролю, якую Касцёл можа мець у сітуацыі новых грамадскіх падзелаў на людзей, якія маюць доступ да інфармацыі і новую групу тых, хто пазбаўлены такой магчымасці альбо становіцца безабаронным ад інтэнсіўнага і разнастайнага інфармацыйнага націску ацэнак, а не фактаў.

Мадрыдскі біскуп-суфраган Эўгеніо Рамэро Посэ падкрэсліў, што перамены, сведкамі і удзельнікамі якіх мы з'яўляемся, трэба ацэньваць у святле стварэння як дынамічнай рэчаіснасці, якую Бог пастаянна развівае пры ўдзеле чалавека. Параўноўваючы з'яўленне новых тэхналогій з вынаходніцтвам друку і рэлігійнымі, сацыяльнымі і палітычнымі вынікамі гэтага, біскуп звярнуў увагу на задачы, якія ставіць перад сучасным хрысціянствам развіццё тэхналогій. Без разумення новай рэчаіснасці, – сказаў ён, – мы рызыкуем будучыняй евангелізацыі.

Усе інстытуты Каталіцкага Касцёла ў Іспаніі карыстаюцца агульным сэрверам, які быў створаны 13 гадоў таму з мэтай забяспечыць праграмнае забеспячэнне і дыдактычную дапамогу каталіцкім школам у краіне, якія былі выключаны з нацыянальнай праграмы камп'ютарызацыі асветы. (КАІ)

## АЎСТРЫЯ: **Святары не будуць членамі парламенту**

Арцыбіскуп Вены Хрыстаф Шонбарн выказаўся супраць выканання палітычных функцый каталіцкімі святарамі. Гэтую пазіцыю таксама падтрымлівае старшыня Канферэнцыі аўстрыйскіх біскупаў біскуп Вэбэр з Граца. Выказванне арцыбіскупа Вены было рэакцыяй на інтэрв'ю біскупа Курта Крэна тыднёвіку *News*, у якім ён нядаўна сказаў, што "пры пэўных акалічнасцях" святары маглі б быць членамі парламенту.

"Клопат Касцёла пра палітыку не павінен азначаць, што святары і біскупы маглі б займаць пасады ў палітычнай сферы," – адзначыў арцыбіскуп Шонбарн з Вены.

## ФРАНЦЫЯ: **Мясцовая ўлада не вытрымлівае націску секты**

Мясцовыя органы ўлады ў Францыі нічога не могуць зрабіць супраць фінансавай моцы секты сведкаў Еговы, якая актыўна будуе свае "залы царстваў", біблійныя цэнтры і друкарні, – паведамляе газета *La Croix*. Калі сведкам адмаўляюць у продажы зямлі, яны набываюць нерухомасць альбо абяцаюць будаўніцтва аб'ектаў сацыяльнага прызначэння, на якія ў мясцовых уладаў няма сродкаў. Сведкі Еговы жадаюць таксама атрымаць статус "культурнага таварыства", у чым ім было адмоўлена ў 1985г. з-за абавязковай у секце забароны пералівання крыві. Аднак сем мясцовых адміністрацыйных трыбуналаў на практыцы ўжо прызналі падобны статус за сектай, якая ў выніку атрымала магчымасць не выплочваць зямельнага падатку. (КАІ)

## СЛАВАКІЯ: **Урад жадае кантраляваць рашэнні Касцёла**

Паводле падрыхтаванага ў гэтай краіне праекту закона, які будзе рэгуляваць адносіны паміж дзяржавай і Касцёлам, Ватыкан павінен узгадняць кандыдатуры на біскупа з урадам перад тым, як рашэнне будзе абвешчана. Гэта датычыць і рашэнняў аб змяненні межаў дыяцэзій. (KAI/KNA)

Славацкая Канферэнцыя Біскупаў рашуча адмовіла прынцып удзелу дзяржавы ў намінацыі новых біскупаў і змяненні межаў дыяцэзій, за які выказалася большасць міністэрстваў краіны. (КАІ)

## ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ: **Англіканскія біскупы жадаюць актывізацыі экуменічных працэсаў**

Англіканская Царква зноў выказвае гатоўнасць да ажыўлення свайго ўдзелу ў экуменічным дыялогу. "Відочнае адзінства з'яўляецца воляй Божай для Касцёла", – гаворыцца ў 30-старонкавым адказе англіканскіх біскупаў на папскую энцыкліку "Ut unum sint" з 1995г. Брытанская газета "Daily Telegraph" паведаміла, што ў сваім дакуменце кіраўнікі Царквы Англіі заявілі, што "з вялікай радасцю" прынялі запрашэнне Яна Паўла II "да братняга дыялогу". Біскупы станоўча выказаліся на тэму "супольнага хросту", але не пагаджаюцца з каталіцкім разуменнем шанавання Маці Божай і ролі Папы. Яны падкрэслілі, што калі Каталіцкі Касцёл праўды веры аб Багародзіцы і марыйным кульце вызначыць "істотнымі элементамі ў іерархіі праўдаў", то могуць узнікнуць цяжкасці. На думку англіканскіх біскупаў, захаванне ў цяперашняй форме ўлады Папы можа пагражаць прынцыпу калегіяльнасці біскупаў. (KAI/KNA)

## ГРЭЦЫЯ: **"Біблійны Атлас" выклікаў незвычайную цікавасць**

Штодзённая газета "Катэмірыні", друкуючы ў сваім нядзельным дадатку "Біблійны Атлас", стала самым папулярным грэцкім выданнем з ліку падобных. Евангеліцкі бюлетэнь IDEA паведаміў, што іншыя газеты ў краіне ў сваіх уікэндавых выданнях дзеля заахвочвання чытачоў далучаюць да нумароў кампакт-дыскі альбо талоны на спартыўныя прыналежнасці. Разам з суботне-нядзельным выданнем "Катэмірыні" на працягу 20 тыдняў будуць атрымліваць мапы, здымкі, табліцы і тэксты, якія тлумачаць біблійныя падзеі, пачынаючы ад Кнігі Роду (Быцця) і да Апакаліпсіса св.Яна. Усе 20 укладышаў можна будзе абмяняць на адпаведнае кніжнае выданне. (KAI)

## ЮГАСЛАВІЯ: **Створана Югаслаўская Канферэнцыя біскупаў**

Апостальская Сталіца дазволіла стварыць Канферэнцыю каталіцкіх біскупаў Федэратыўнай Рэспублікі Югаславіі, у склад якой цяпер уваходзяць Рэспубліка Сербская (разам з аўтаномнымі краямі Ваяводзіна і Косава) і Рэспубліка Чарнагорыя.

Арцыбіскуп Белграда Франц Пэрко, які стане першым кіраўніком Канферэнцыі, сказаў журналістам, што стварэнне Канферэнцыі біскупаў азначае нармалізацыю структуры Каталіцкага Касцёла ў Югаславіі. Ён дадаў, што ўтварэнне каардынуючага органа, які стане таксама месцам кантактаў, стала неабходным з-за разнастайных умоваў душпастырскай дзейнасці ў паасобных дыяцэзіях.

У межах Югаславіі цяпер знаходзяцца Белградская архідыяцэзія (у яе склад уваходзяць дыяцэзіі Субоціца і Зрэньядзін), архідыяцэзія Бар і дыяцэзія Катор, а таксама часткі македонскай дыяцэзіі Скоп'е і харвацкай Д'якова. У федэратыўнай краіне пражывае каля 550 тыс. католікаў, якія належаць да розных этнічных груп. (KAI/KNA)

## КАМБОДЖА: **Касцёл атрымаў юрыдычны статус**

Урад Камбоджы надаў Касцёлу юрыдычны статус. Гэтае рашэнне дазволіць Касцёлу набываць будынкі для семінарыяў альбо дабрачыннай дзейнасці. Улады запэўнілі таксама, што спросцяць працэдуру атрымання візаў для місіянераў, якія жадаюць прыехаць у гэтую азіяцкую краіну.

Сярод 22 тыс. католікаў у Камбоджы цяпер працуе 30 замежных святароў і 35 законных сясцёр. Дыпламатычныя адносіны з Апостальскай Сталіцай урад краіны ўсталяваў у 1994г. У 1975-1979гг., калі ў Камбоджы быў устаноўлены камуністычны рэжым Чырвоных хімераў, з краіны былі высланыя ўсе місіянеры, а каталікі пераследаваліся ўладамі. (KAI/KNA)

## КУБА: **На Кубе адбываюцца пэўныя зрухі ў адносінах дзяржавы і Касцёла**

18 снежня кубінскі кіраўнік Фідэль Кастра сустрэўся з членамі Пастаяннай камісіі Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Кубы. Тэмай сустрэчы з каталіцкімі біскупамі, першай за апошнія 12 гадоў, стала падрыхтоўка да візіта ў краіну Яна Паўла II, які адбудзецца 21-26 студзеня 1998г.

Як паведамілі сусветныя агенствы, прадстаўнік кубінскага МІДа адзначыў, што "ад пэўнага моманту кубінскі ўрад і Касцёл знаходзяцца на новым этапе". На яго думку, "пачаўся працэс нармалізацыі адносінаў", а "рэвалюцыя ніколі не кіравалася прадузятасцю да рэлігіі". Напрыканцы лістапада Ф.Кастра сустрэўся з прадстаўнікамі 31 (з ліку 54 існуючых на Кубе) пратэстанцкай супольнасці, з якімі абмяркоўваў стан узаемаадносінаў рэлігійных арганізацый і дзяржавы. (KAI)

У снежні Канферэнцыя каталіцкіх біскупаў Кубы пры садзеянні камп'ютарнай сеткі Касцёла ў Лацінскай Амерыцы (RIIAL) адкрыла ўласную старонку ў Інтэрнэце (http://www.brigadoon.com/cocc), на якой публікуецца агульная інфармацыя пра Касцёл у краіне і весткі аб запланаваным візіце Яна Паўла II. "Каталіцкі Касцёл на Кубе хацеў бы мець у гэтай краіне ўласныя, незалежныя сродкі масавай інфармацыі, але толькі старонка ў Інтэрнэце дае магчымасць абмінуць рэпрэсіўнае заканадаўства", – заявіў адзін з супрацоўнікаў RIIAL. (KAI/CWN)

## КОРАТКА

**Маркі.** З нагоды 100-годдзя існавання ў Германіі каталіцкай дабрачыннай арганізацыі Caritas паштовая служба краіны выпусціла спецыяльную марку.

**Місіянеры.** Найбольшая колькасць місіянераў паходзіць з Італіі – 16 314. У гэтую лічбу ўваходзяць таксама святары, якія служаць сярод сваіх суродзічаў-эмігрантаў.

**Нетрадыцыйная рэлігія.** Патрыярх Маскоўскі і ўсёй Русі Алексій II у інтэрв'ю расійскаму часопісу "Профіль" заявіў, што "каталіцызм не з'яўляецца традыцыйнай рэлігіяй у Расіі".

## КОРАТКА

**Свабода сумлення.** У Рэспубліцы Башкартастан (былая Башкірыя), якая ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі, пачалася распрацоўка ўласнага закона аб свабодзе сумлення.

**Літаратура.** У кастрычніку ў Санкт-Пецярбургу выйшаў першы нумар часопіса "Горніца", які мяркуе прадстаўляць праваслаўную духоўнасць і стаць адпаведнікам "Літаратурнай газеты" для тых аўтараў і чытачоў, якія разумеюць, што хрысціянства з'яўляецца асновай і сутнасцю расійскай культуры.

**Мас-медыя.** Італьянскі часопіс "Famiglia cristiana" параіў сваім чытачам абмінаць шапікі, у якіх прадаюцца парнаграфічныя часопісы. "Ніхто не хоча страціць кліентаў", – сцвярджае рэдактар часопіса кс.Леанардо Зэга.

• Каталіцкая газета *Niedziela* займае 12-е месца па папулярнасці сярод польскіх штотыднёвікаў. Яе чытае 3,01% палякаў. 8,11% жыхароў краіны слухаюць "Радыё Марыя" (5-е месца сярод радыёстанцый). За апошнія пяць гадоў аўдыторыя самых папулярных каталіцкіх СМІ ў Польшчы павялічылася ў некалькі разоў.

• У снежні 1997г. у Польшчы створаны Езуіцкі выдавецкі кансорцыум *WAM*, у які ўвайшлі ўсе польскія выдавецтвы і перыёдыкі, якія належаць езуітам. Мэтай кансорцыума будзе развіццё супрацоўніцтва паміж рэдакцыямі, абмен матэрыяламі і ўзаемная рэклама.

• Варшаўскаму выдавецтву айцоў марыянаў, аднаму з буйнейшых польскіх каталіцкіх выдавецтваў, споўнілася 10 гадоў. Асаблівую ўвагу выдавецтва надае марыйнай і марыялагічнай тэматыцы.

# НОВЫ ЗАКОН "АБ РЭЛІГІЯХ РАСІІ" ТАКІ Ж НЕДАСКАНАЛЫ, ЯК І ПАПЯРЭДНІ

***У рэлігійным і грамадскім жыцці Расіі ў апошні час адбылася важная падзея. Дзяржаўная дума прыняла новы варыянт закону аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях. Як Вы ацэньваеце гэты новы заканадаўчы акт?***

– Калі казаць пра сам тэкст, то новы варыянт закону нічым не лепшы за папярэдні, прыняты ў канцы чэрвеня (гл.КН №8 за г.г. – *Заўвага рэд.КН*). Папярэдняя версія дакумента не была падпісана прэзідэнтам Б.Ельцынам, бо яна супярэчыла Канстытуцыі. Але цяперашні дакумент захоўвае ўсе супярэчнасці першага і не адпавядае не толькі Канстытуцыі, але і супярэчыць сам сабе ў розных аспектах. Гэта дрэнны тэкст, які ўводзіць іерархію веравызнанняў на карысць, зразумела, праваслаўя. (...) Па сутнасці, праваслаўе было прызнана дзяржаўнай рэлігіяй.

(...) Усё гэта сведчыць пра змяшэнне ў расійскай свядомасці паняццяў "хрысціянства", "традыцыя", "рэлігія". Таму ў грамадскай думцы ўзрастала ідэя адмены закона, прынятага яшчэ ў 1990г. пры Гарбачове – занадта "заходняга" і дэмакратычнага. Гэта не адпавядала расійскай ментальнасці, якая не прызнае падобных паняццяў або, прынамсі, укладае ў іх іншы сэнс. Падобна да таго, што пасля сямі "тлустых" гадоў надыходзяць гады "худыя". Трэба дадаць, што расіяне інакш разумеюць не толькі ўзгаданыя тут паняцці, але таксама і некаторыя ідэі, напр.экуменізм, які лічаць заходнім і чужым.

(...) У рэлігійнай і духоўнай сферах цяперашняя дзяржаўная ўлада імкнецца зрабіць праваслаўе (а, дакладней, Маскоўскі Патрыярхат, бо расійскае праваслаўе – гэта паняцце больш шырокае і ахоплівае меншыя, незалежныя Цэрквы і юрысдыкцыі) – дзяржаўнай рэлігіяй.

***Як у гэтай новай рэальнасці складваюцца Вашы адносіны з Рускай Праваслаўнай Царквой, а таксама з іншымі Цэрквамі, веравызнаннямі і рэлігіямі ў Расіі?***

– Перадусім трэба сказаць, што мы не можам не прымаць факту важнай ролі праваслаўя ў гісторыі расійскага народу і Расіі, пра што ўзгадвае новы закон. Гэта праваслаўная краіна, што мы заўсёды і падкрэсліваем. Дарэчы, каталікі, з гэтага пункту гледжання, ужо выконваюць новы закон і, напрыклад, ніколі не адкрываюць новай парафіі і не пачынаюць ніякіх важных ініцыятываў без папярэджвання Патрыярха альбо мясцовага праваслаўнага епіскапа. (...)

Праблема ўзнікае тады, калі мы хочам дакладней акрэсліць, што мы разумеем пад паняццямі традыцыі і традыцыйнай рэлігіі. Праваслаўныя часта кажуць, што, напрыклад, у каталіцкіх краінах праваслаўе нельга лічыць традыцыйнай рэлігіяй, таксама, як і каталіцызм у праваслаўнай краіне. Калі пагадзіцца, што паняцце "традыцыйная рэлігія" азначае пануючую рэлігію, тады сапраўды праваслаўе можна лічыць традыцыйным для Расіі. Але Захад разумее паняцце традыцыйнасці крыху інакш: традыцыйнымі з'яўляюцца тыя рэлігіі ці веравызнанні, якія на дадзенай тэрыторыі глыбока ўкараніліся. Гэта, аднак, не выключае прысутнасці ў тым жа рэгіёне рэлігійных, нацыянальных, культурных і іншых меншасцяў, якія маюць цалкам гарантаванае права на развіццё, што абараняе ўсіх.

Для нас гэта натуральна, асабліва пасля Другога Ватыканскага Сабору, бо ў гэтым мы бачым разнастайнасць, якая ўзбагачае культуру, а не знішчае яе. У такім разуменні традыцыйнасць азначае ўзбагачэнне сваёй веры. Для расіянаў такі пункт гледжання з'яўляецца занадта "заходнім".

Нашай (г.зн. католікаў у Расіі) мэтай ні ў якім разе не можа быць канкурэнцыя з праваслаўнымі або спробы дасягнуць нейкай перавагі над імі. Мы добра ўсведамляем, што католікі ў Расіі з'яўляюцца ня-

*Размова з а.Стэфано Капрыо, намеснікам сакратара апостальскай адміністратуры Еўрапейскай часткі Расіі*

значнай меншасцю, як і многія вернікі іншых веравызнанняў. На нашу думку, значным багаццем Расіі з'яўляецца тое, што гэты вялікі народ не выключае са сваёй гісторыі і традыцыі таксама іншых.

***Расійская Праваслаўная Царква папракае католікаў у празелітызме — "перацягванні" на свой бок праваслаўных і ўвогуле расіянаў, у тым ліку няверуючых. Як Вы адказваеце праваслаўным на гэтае абвінавачванне?***

– (...) Каталіцкі Касцёл у Расіі не праводзіў і не праводзіць ніякай дзейнасці, скіраванай на "перацягванне" праваслаўных вернікаў. Гэта сапраўды хлусня.

Праваслаўная Царква абвінавачвае нас у тым, што мы стварылі апостальскія адміністратуры і прызначылі каталіцкіх біскупаў там, дзе іх раней не было (Масква, Новасібірск), што мы ствараем парафіі там, дзе амаль няма католікаў. Мы адказваем на гэта, што стварэнне новых структураў залежыць ад зменаў, якія адбыліся ў палітычнай і грамадскай сістэме Расіі. Напрыклад, у Сібіры ў выніку ссылак і дэпартацыяў аказаліся сотні тысяч, а можа нават і мільёны католікаў. Мы, канешне ж, не можам забываць і пра тое, што да рэвалюцыі магілёўскі арцыбіскуп (якому былі падначалены католікі ва ўсёй Расійскай імперыі, акрамя польскіх і літоўскіх земляў) жыў у Санкт-Пецярбургу. Але сёння цэнтр палітычнага і ўсякага іншага жыцця знаходзіцца ў Маскве.

У многіх населеных пунктах каталіцкія парафіі пачынаюць сваё існаванне ад вельмі маленькай колькасці людзей, ад некалькіх чалавек, бо шмат вернікаў усё яшчэ не маюць адвагі і не адразу прыходзяць да ксяндза ці сястры, якія арганізоўваюць парафію, або не адразу даведваюцца пра факт узнікнення каталіцкай супольнасці. Мы гэта асабліва не афішуем. Паступовa, часам вельмі павольна нараджаецца мясцовае каталіцкае насельніцтва. Сярод іх ёсць не толькі людзі з традыцыйна каталіцкага асяроддзя – палякі, немцы, літоўцы і іншыя, – але таксама і шмат расіянаў, якія толькі пачынаюць свой духоўны шлях. (...) У любым выпадку немагчыма казаць, што католікі арганізуюць кампаніі "перацягвання" праваслаўных.

Насамрэч існуе іншая праблема: трэба памятаць, што, хоць Праваслаўная Царква лічыць веруючымі людзьмі большасць расіянаў, на самой справе яны складаюць толькі адзін працэнт усіх жыхароў гэтай вялікай краіны. Гэта з улікам і праваслаўных, і членаў іншых веравызнанняў. Праблемай Расіі з'яўляецца не празелітызм, а евангелізацыя. Канешне, мы стараемся не пераходзіць межаў, якія аддаляюць нас ад праваслаўя, але мы не можам быць пасіўнымі, калі навокал так мала робіцца, каб здабыць для Бога людзей, для іх евангелізацыі. Мы проста хочам абвяшчаць у Расіі Божае слова. Няхай робяць гэта і праваслаўныя, і пратэстанты, і ўсе хрысціяне. Галоўнае, каб людзі пазнавалі Бога.

(...)

***Давайце вернемся да новага закону. Якое практычнае значэнне ён будзе мець?***

– Новы заканадаўчы акт дае шмат магчымасцяў інтэрпрэтаваць яго адвольна. Напрыклад, у пытанні прызнання пэўнай рэлігіі ці Царквы традыцыйнай альбо не. Адсюль – шмат незразумелага. Напрыклад: якія рэлігійныя аб'яднанні будуць чакаць рэгістрацыі 15 гадоў або ці можна ранейшыя парафіі перарэгістраваць у новых умовах і г.д. Усе гэтыя праблемы пакуль што застаюцца адкрытымі, і трэба пачакаць, калі закон увойдзе ў жыццё. Хоць ён можа апынуцца ў Канстытуцыйным Судзе, які павінен будзе прыняць канчатковае рашэнне. У любым выпадку мы будзем абараняць свае правы, хоць добра ведаем, што сітуацыя пасля прыняцця новага закону стане больш складаная.

Прывяду адзін невялікі прыклад. Некалькі тыдняў таму арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч размаўляў з віцэ-губернатарам Санкт-Пецярбурга аб вяртанні даўняй рэзідэнцыі біскупа, якая знаходзіцца каля семінарыі. Цяпер гэты будынак пусты, ніхто не прэтэндуе на яго правоў і ў прынцыпе няма ніякіх перашкодаў, каб яго вярнуць. Аднак віцэ-губернатар спаслаўся на новыя прадпісанні і адзначыў, што гэта палітычная справа. Ён ухіліўся ад прыняцця рашэння, але прыме яго, хутчэй за ўсё, пасля знаёмства з меркаваннем мясцовага праваслаўнага епіскапа.

***Значыць, можна сказаць, што Праваслаўная Царква паступова займае месца, якое калісьці займаў Савет па справах рэлігіі, які, між іншым, вырашаў, ці можна адкрыць новую парафію і г.д.?***

– Скажам, Царква спрабуе выконваць функцыі, якія выконвала ў часы Расійскай імперыі, калі католікі павінны былі браць дазвол на стварэнне парафіі ці адкрыццё новай святыні спачатку ў мясцовага праваслаўнага епіскапа, потым – у адпаведнага дзяржаўнага чыноўніка, і толькі пасля гэтага яны маглі звярнуцца да ўласнага біскупа. Усе святары з-за мяжы, якія хацелі працаваць у Расіі, мусілі адмовіцца ад свайго грамадзянства і прыняць расійскае, каб мець дазвол кіраваць парафіяй.

***Напрыканцы я хацеў бы запытацца пра колькасць парафіяў і каталіцкага духавенства ў Расіі.***

– У еўрапейскай частцы Расіі існуе каля ста парафій і ў азіяцкай частцы прыкладна столькі ж, можа, крыху больш, звычайна яны меншыя за еўрапейскія. У іх працуе ўсяго каля 100 святароў у еўрапейскай частцы (гэта значыць, па адным на кожную парафію), а ў азіяцкай – крыху менш, 70-80. Прыкладна больш паловы з іх – палякі, а ўвогуле ў нас працуюць святары 15 нацыянальнасцяў. (...)

*Размаўляў*
*Кшыштаф Галэмбёўскі*
*(KAI)*

# ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА СЁННЯ

## УКРАІНА
### Прызначаны новы Кіеўска-Вышгарадскі экзарх

Сінод біскупаў Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы прызначыў Кіеўска-Вышгарадскім экзархам біскупа Васіля Мэдвіда, які дагэтуль з'яўляўся біскупам-суфраганам Львоўскай архіепархіі.

Стварэнне ў 1995г. гэтага экзархата, які ахоплівае ўсю Усходнюю Украіну, выклікала пратэсты ўсіх Праваслаўных Цэркваў, якія існуюць на Украіне. Маскоўскі Патрыярхат абвінавачвае грэка-католікаў у экспансіі на землі, дзе раней ніколі не існавала Грэка-Каталіцкай Царквы. Між тым прысутнасць грэка-католікаў на усходзе Украіны, а таксама ў некаторых краінах былога СССР (перадусім у Расіі і Казахстане) – гэта вынік масавых перасяленняў украінцаў у гады сталінскага тэрору.

Грэка-Каталіцкая Царква на Украіне складаецца з адной Львоўскай мітраполіі, якой падначалены Івана-Франкоўская, Каламыя-Чарнавецкая, Самбора-Драгобыцкая, Тэрнопальская і Збораўская епархіі. Асобную адміністрацыйную адзінку ўяўляе Мукачаўская епархія, якой кіруе вярхоўны арцыбіскуп Львоўскі кардынал Міраслаў Іван Любачэўскі. (КАІ/В-І)

## ЧЭХІЯ
### Высвечана 18 святароў

Грэка-каталіцкі экзарх у Чэшскай Рэспубліцы біскуп Іван Льявінец у канцы кастрычніка высвяціў "sub conditione" 18 святароў, якія ў перыяд камуністычнага рэжыму былі тайна высвечаны біскупам Ф. М. Давідкам, – паведаміла інфармацыйнае бюро Чэшскай Канферэнцыі Біскупаў.

Пасвячэнні "sub conditione" ўдзяляюцца ў тым выпадку, калі існуюць абгрунтаваныя сумненні ў сапраўднасці папярэдніх пасвячэнняў. У дадзеным выпадку былі не выкананы ўсе неабходныя ўмовы, у якіх, аднак, перакананы сам біскуп Давідэк. (КАІ)

## БЕЛАРУСЬ
### Свята ў Полацкім манастыры

8-9 лістапада ў Полацку адбыліся святкаванні 100-годдзя аднаўлення студыцкага манаства і парафіяльнае свята – дзень св.Язафата, біскупа і мучаніка. Барысаглебскі манастыр гасцінна прыняў пілігрымаў з Магілёва, Мінска, Гомеля, Віцебска, Івацэвічаў. У суботу, падчас рэкалекцый, якія правялі іераманах Пахомій (Кавалёў) і сястра Вольга, маладыя грэка-католікі даведаліся пра ролю і месца манаства ў жыцці Касцёла, а таксама пра духоўнае аблічча св.Язафата і ягоны мучаніцкі шлях. Рэкалекцыі скончыліся начным чуваннем, у якім таксама прынялі ўдзел сёстры-эўхарысткі з Полацка. На наступны дзень, пасля святой Літургіі, у Струні, што пад Полацкам, на месцы, дзе калісьці была рэзідэнцыя полацкіх уніяцкіх мітрапалітаў і царква, быў асвечаны крыж-помнік. У Полацку дзейнічаюць мужчынскі Барысаглебскі і жаночы Уваходу Багародзіцы ў святыню манастыры Студыцкага чыну, і гэта пакуль што адзіны асяродак манаскага жыцця ў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве.

*С. Стасевіч*



### Урачыстасць братоў-апосталаў

У дзень святога апостала Андрэя Першапакліканага (30 лістапада) грэка-католікі сабраліся на свята парафіі ў Брэсце. Пасля малебна на руінах Петра-Паўлаўскай базыльянскай царквы ў Брэсцкай крэпасці ў парафіяльнай капліцы адбылася ўрачыстая Літургія. Брэсцкая парафія прымала гасцей з Баранавічаў, Івацэвічаў і уніяцкай парафіі з вёскі Кастамлоты, якая знаходзіцца на польскім беразе Буга. Настаяцелем грэка-каталіцкай парафіі Святых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Брэсце з'яўляецца а.Ігар Кандрацьеў.

*С. Стасевіч*

### *Мітрапаліт Філарэт перасцерагае праваслаўных святароў*

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт звярнуўся 27 кастрычніка да настаяцеляў прыходаў Мінскай епархіі. Гэты зварот быў апублікаваны, у прыватнасці, у газеце "Преображение". У ім праваслаўны іерарх папярэджвае аб небяспецы для Беларускай Праваслаўнай Царквы з боку некананічных псеўдаправаслаўных груповак, якія апошнім часам пачалі актыўна займацца стварэннем прыходаў на тэрыторыі Беларусі. Гэта найперш так званая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква з цэнтрам у Нью-Ёрку на чале з "мітрапалітам" Ізяславам і "Беларуская Народная Праваслаўная Царква", створаная самавысвячаным "архіепіскапам" Рыжым-Рыскім. Апошняя, па словах Філарэта, ужо мае на Беларусі "епіскапа" і некалькіх "святароў", *"якія раз'язджаюць па Беларусі, асмельваючыся адпраўляць святатацкія "багаслужбы"*. Мітрапаліт занепакоены таксама распаўсюджваннем па Беларусі часопіса БАПЦ "Царкоўны Пасланец", матэрыялы якога сведчаць аб наступных мэтах БАПЦ: *"стварэнне на тэрыторыі Беларусі незаконнай аўтакефальнай праваслаўнай царквы шляхам стварэння тут прыходаў БАПЦ і актыўнай прапаганды ідэі аўтакефаліі; прамое ўмяшанне ў палітычнае жыццё беларускай дзяржавы пад маркай "барацьбы за незалежнасць Беларусі"*. Мітрапаліт Філарэт адзначае таксама факт дамовы Ізяслава з іерархамі Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату пра навучанне будучых святароў для БАПЦ на тэрыторыі Украіны. Зварот заканчваецца заклікам да святароў быць пільнымі і шкадаваннем з прычыны таго, што тыя, хто знаходзіцца *"па-за мяжой Адзінай, Святой, Сабornай і Апостальскай Царквы ... пазбаўляюць сябе збаўлення і вечнасці"*.

*А. Солад*

## УКРАІНА: Кананізацыя новых святых у Адэсе

Двума новымі святымі ўзбагацілася Украінская Праваслаўная Царква Маскоўскага Патрыярхату. У катэдральным саборы Успення НМП у Адэсе мітрапаліт Кіеўскі і ўсёй Украіны Уладзімір (Сабадан) далучыў да ліку святых епіскапа Інакенція Херсонскага (епіскап Херсонскі і Таўрыдскі Інакенці Барысаў жыў у 1800–1857гг. і шмат прыклаў намаганняў для развіцця рэлігійнага жыцця ў Адэсе і Паўднёвай Украіне) і епіскапа-мучаніка Анатолія Адэскага (мітрапаліт Херсонскі і Адэскі Анатоль Грысюк (1880–1938) загінуў ад рук бальшавікоў). Пасля кананізацыі па вуліцах горада прайшоў хросны ход з крыжом і рэліквіямі новых святых.

Згодна з традыцыяй Праваслаўнай Царквы кананізацыя святых носіць лакальны характар, і кожная з аўтакефальных (незалежных) Цэркваў мае права самастойна абвяшчаць святых. Пры гэтым папярэдне інфармуюцца іншыя памесныя Цэрквы аб будучым праслаўленні, каб пазбегнуць кананізацыі асобаў, непрымальных іншымі Цэрквамі. (KAI/B-I)

## РАСІЯ: Праваслаўнае духавенства ініцыіруе байкот банка

Варшаўская газета *Życie* паведаміла, што маскоўскае праваслаўнае духавенства стала ініцыятарам кампаніі з мэтай закрыцця асабістых рахункаў у МОСТ-Банку, уласніка расійскага тэлеканала НТВ, пасля трансляцыі скандальна вядомага фільма "Апошняе спакушэнне Хрыста" Марціна Сакрсэзэ. Праваслаўныя епіскапы звярнулі ўвагу на тое, што акцыя носіць спантанны характар, і Маскоўскі Патрыярх не выдаваў ніякіх распараджэнняў адносна Уладзіміра Гузінскага, уласніка МОСТ-Банка і НТВ. (KAI)

## КОРАТКА

**Нязгода.** 170 парафій і 83 святары Львоўскай епархіі Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы перайшлі пад юрысдыкцыю Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату. На Украіне цяпер існуе 4 праваслаўныя юрысдыкцыі, але толькі УПЦ Маскоўскага Патрыярхату з'яўляецца кананічнай.

**Іконы.** Украінскія ўлады перадалі Праваслаўнай Царкве звыш 500 іконаў, якія былі канфіскаваны мытнікамі падчас спробаў нелегальнага вывазу з краіны.

**Помнік.** Пасля доўгіх намаганняў жыхароў Львова на Марыянскую плошчу горада вярнулася фігура Маці Божай. У абрадзе асвячэння ўдзельнічалі каталіцкія біскупы лацінскага і візантыйска-украінскага абрадаў і епіскап УПЦ Кіеўскага Патрыярхату.

**Стараабрадцы.** Сёлета пачаліся заняткі ў стараабрадскай духоўнай школе ў Маскве – першай сярэдняй школе Рускай Праваслаўнай Стараабрадскай Царквы (Белакрыніцкай традыцыі). Стараабрадцы (альбо старавеверы) – нашчадкі рускіх праваслаўных, якія не прызналі рэформы Патрыярха Нікана ў XVII ст.

## *"Пачатак благаславёны, і канец будзе таксама пераможны, благаславёны"*



15 лістапада ў Баранавічах быў пасвечаны вуглавы камень новага храма – касцёла св.Зыгмунта, пробашчам парафіі якога з'яўляецца кс.Богдан Крыньскі. Абрад пасвячэння здзейсніў кардынал Казімір Свёнтэк, які таксама сказаў гамілію падчас Св.Імшы.

Казанне Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка было хвалюючым: "Сёння я магу падзяліцца той радасцю, што разам з Мінскай катэдрай дзве трэці святыняў на Беларусі адбудаваныя, у тым ліку больш дваццаці пабудаваны наноў. Гэта бачны знак рэальнага адраджэння веры, Касцёла і нашага рэлігійнага жыцця на Беларусі. Сёння мы ўсе тут сабраныя, духавенства, цешымся і радуемся, што яшчэ адна цаглінка ўмуроўваецца ў адбудаванне Касцёла на Беларусі". Асвячэнне вуглавога каменя павінна стаць сімвалам таго, што ўсё, што тут будуецца – "будуецца на Хрысце Пане, для Хрыста Пана і ў Хрысце Пану. І таму не павінна быць нават самага маленькага сумнення і неспакою, што нешта не атрымаецца, нечага не зробім. Мы толькі прылада ў Провідзе Божым, у руках Божых, у руках Езуса Хрыста. Гэта Ён будуе сваё валадарства Хрыстовае на зямлі," – працягваў кардынал.

Дзесяцігоддзі перасследу Касцёла на Беларусі – гэта яскравае спаўненне евангельскага прароцтва, што *брамы пякельныя не перамогуць яго*: "лічылі, што вось скончылі з рэлігіяй, з Богам, Касцёлам і духавенствам, з вернікамі. Яшчэ дзень, два і, думалі: настане рай на зямлі, пабудаваны на атэізме, бязбожніцтве. А дзе яны цяпер? Хоць адзін з іх быў сёння смелы і сумленны прыйсці сюды і ўдарыць у грудзі, што знішчаў, бясчэсціў, пераследаваў? ...Сорам, звычайны чалавечы сорам ахоплівае іх, што паднялі руку на святыні Божыя, на рэлігію, на Касцёл, на Бога!" – адзначыў кардынал Казімір Свёнтэк і з упэўненасцю працягваў: "Які ж радасны і міласэрны сённяшні дзень! Мы цешымся і радуемся, што ўжо ёсць пачатак. А ёсць пачатак – будзе і канец. Пачатак благаславёны, і канец будзе таксама пераможны, благаславёны".

Напрыканцы казання Яго Эмінэнцыя заклікаў усіх вернікаў актыўна дапамагаць будаваць храм: "Нельга толькі цяпер удзельнічаць, а потым хадзіць іншымі вуліцамі і не бачыць, не цікавіцца, што робіцца тут... Кожны павінен зрабіць свой непасрэдны ўклад у пабудову гэтай святыні... Гэта наш святы абавязак – каталіцкі, народны!"

*І. Іваноў*

# АДБЫЛОСЯ АДВЭНТОВАЕ НАЧНОЕ ЧУВАННЕ МОЛАДЗІ МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ








"Прыйдзі, Пане Езу", – пад такою назваю адбылося чуванне моладзі ўначы з 20 на 21 снежня ў Мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны. Чуванне задумвалася як сустрэча каталіцкай моладзі з парафій Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, і ў ім удзельнічала звыш 300 маладых католікаў з 28 парафій архідыяцэзіі, а таксама з Пінскай дыяцэзіі і шмат святароў, законнікаў і законніц, клерыкі Гродзенскай духоўнай семінарыі.

Гэтае адвэнтовае спатканне, ў часе якога было шмат малітвы, добрых спеваў, індывідуальных размоваў, стала адпаведнай падрыхтоўкай да свята Божага Нараджэння, а таксама магчымасцю для моладзі падзяліцца вопытам і радасцю свайго духоўнага жыцця, знайсці новых сяброў і знаёмых. Удзельнікі чування неаднаразова казалі пра неабходнасць праводзіць падобныя сустрэчы і, як сказаў пробашч Мінскай катэдры кс.Антоні Клімантовіч, такія чуванні мяркуецца праводзіць рэгулярна ў Мінску, а таксама ў некаторых іншых парафіях Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

Спатканне моладзі ў Мінску паказала, што ёсць шмат маладых католікаў, якія жадаюць служыць сваімі здольнасцямі і сваім часам Богу, ствараць супольнасці, рэалізоўваць іншыя ініцыятывы, але гэтаму на Беларусі часта замінае элементарная адсутнасць вопыту падобнай дзейнасці свецкіх. У такой сітуацыі дастаткова невялікай падказкі, падтрымкі з боку духавенства, каб ажывіліся і сталі больш плённымі парафіяльнае жыццё, дабрачынная дзейнасць, евангелізацыйныя ініцыятывы ў Касцёле.

***А. Нешчарда***



## У Мінску прайшла выстава, прысвечаная ранняму хрысціянству

2000-гадоваму юбілею хрысціянства прысвяцілі арганізатары (Беларускі хрысціянскі адукацыйны фонд імя святых Кірыла і Мятода, цэнтр "Хрысціянская Расія" з Італіі і Хрысціянская духоўная бібліятэка з Масквы) выставу "Са Святой Зямлі – да ўсіх народаў". Распаўсюджванне хрысціянства ў першыя стагоддзі", якая з кастрычніка 1997г. да канца мінулага года праходзіла ў Мінску. Яна стала своеасаблівым працягам іншай выставы, якую ў сакавіку 1996г. у італьянскім горадзе Рыміні правяла асацыяцыя "Форум за дружбу паміж народамі". Тады ў Рыміні за пяць месяцаў працы выставы звыш 500 тыс. яе наведвальнікаў змаглі пабачыць каля 300 унікальных экспанатаў, прадстаўленых больш як 30 музеямі і навуковымі ўстановамі з розных краінаў, сярод якіх Ерузалемскае ўпраўленне старажытнасцяў, Брытанскі музей, Папская свята-археалагічная камісія, Ватыканскія і Капіталійскія музеі Рыма. Сабраныя разам, гэтыя экспанаты – археалагічныя знаходкі апошніх дзесяцігоддзяў, якія адносяцца да перыяду ўзнікнення хрысціянства, – выклікалі велізарны інтарэс. З-за немагчымасці транспартаваць падобную выставу для паказу ў іншых краінах свету, было вырашана падрыхтаваць яе фотадакументальную экспазіцыю, якая і экспанавалася ў зале Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта ў Мінску.

Напачатку 1998г. выстава пройдзе ў Маскве.

Больш падрабязна пра выставу "Са Святой Зямлі – да ўсіх народаў" чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў часопіса "Ave Maria".

**і.і.**

# СВЯТА БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ Ў МІНСКАЙ АРХІКАТЭДРЫ


24.12.1997г. Нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Д.Грушоўскі ў часе Пастэркі.

24 снежня ў Мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі адправіў Пастэрку, якую транслявала ў гэты вечар Беларускае тэлебачанне.

25 снежня Яго Эксцэленцыя Дамінік Грушоўскі ад імя Апостальскай Сталіцы павіншаваў на Беларускім канале тэлебачання ўсіх каталікоў і ўсіх людзей добрай волі са святам Божага Нараджэння.

26 снежня, у дзень першамучаніка Сцяпана, Св.Імшу ў Мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны адслужыў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк. У гаміліі ён звярнуў увагу вернікаў на сэнс, які мае для нас пакутніцкая смерць святога Сцяпана. Яго Эмінэнцыя адзначыў: "Пан не абяцаў нам, што мы будзем лётаць як анёлы, бо зямля – гэта даліна плачу. І ў нашым рэлігійным жыцці не будзе ўсё так, як мы хочам. Перасьлед быў і ніхто не можа сказаць, што яго больш не будзе. [...] Хрыстус сказаў: *хто хоча ісці за Мной, няхай возьме свой крыж і ідзе.* Для гэтага трэба імкнуцца быць у еднасці з Богам, перамагаць уласныя схільнасці да зла, дасканаліць самога сябе – гэта праўдзівая дарога без падману, праўдзівая праграма Хрыста".

*А.*


26.12.1997г. Кардынал Казімір Свёнтэк благаслаўляе вернікаў.

## У Мінску адбыліся евангелізацыйныя канцэрты, прысвечаныя святу Божага Нараджэння

Напярэдадні Божага Нараджэння, 24 снежня, мінскі рок-гурт "Новы Іерусалім" прадставіў сваю праграму "Ну што ты думаеш пра гэта?" З дапамогай сучаснай музыкі і выдатнага шоу музыканты расказалі слухачам (сярод іх была практычна толькі моладзь) пра свой шлях да Бога і радасць жыцця ў Ім. Сёлета відэакліп "Я знаю любоў" гурта "Новы Іерусалім" некалькі месяцаў запар знаходзіўся ў ліку лепшых у спісе папулярнасці Беларускага тэлебачання. Хутка выйдзе кампакт-дыск гурта і відэакасета з запісамі выступленняў "Новага Іерусаліма" ў Мінску.

28 снежня ў Мінскім касцёле Св. Тройцы (на Залатой Горцы) адбыўся евангелізацыйны канцэрт гурта, у складзе якога музыканты-аматары; сярод іх каталікі і пратэстанты. Гурт выканаў калядныя народныя спевы, для якіх зрабіў арыгінальныя аранжыроўкі, а таксама спірычуэлы і беларускія канты. Гурт мяркуе запісаць касету з уласнай каляднай праграмай, а ў хуткім часе будзе ўпрыгожваць спевамі Св.Імшу ў касцёле Св.Тройцы ў Мінску.

*Н.А.*

## Дзень малітваў у абарону жыцця пачатых дзяцей

Па ініцыятыве Дабрачыннага грамадскага фонда "Маці Божая Фацімская" 8 снежня, дзень Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны, у Мінскай катэдры быў прысвечаны абароне пачатых дзяцей. Акрамя малітваў, казанняў у часе набажэнстваў, а іх адбылося ў гэты дзень чатыры, пробашч архікатэдры Антоні Клімантовіч запрасіў вернікаў да духоўнага ўсынаўлення пачатых дзяцей, якія знаходзяцца ў небяспецы аборту, імёны якіх ведае адзін толькі Бог. Вернікі адгукнуліся на гэтую просьбу і амаль 200 з іх распачалі маліцца за выратаванне жыцця пачатых дзяцей. Яны будуць маліцца на працягу 9 месяцаў: кожны дзень адгаворваць адну Таямніцу Ружанца, прасіць Бога аб выратаванні жыцця гэтым дзецям, а таксама аб справядлівым і пабожным жыцці дзіцяці пасля нараджэння.

*Т.*



Сустрэча дэлегацыі *Caritas-Linz* з кардыналам Казімірам Свёнткам і міснкім аддзяленнем *Caritas*

У лістападзе 1997г. Беларусь наведала дэлегацыя аддзялення ў г.Лінц (Аўстрыя) дабрачыннай арганізацыі *Caritas*. Разам з кіраўніком *Caritas-Linz* Юзэфам Майрам і ягонымі супрацоўнікамі прыехаў таксама біскуп дыяцэзіі Лінц Максіміліян Айхен. Госці пазнаёміліся з дзейнасцю *Caritas* у трох беларускіх дыяцэзіях.

Аддзяленне *Caritas* у Лінцы па рашэнні *Caritas-Europa* адказвае за дапамогу ў станаўленні адпаведных структур на Беларусі. Дабрачынная арганізацыя з Аўстрыі праз сваіх беларускіх партнёраў дапамагае найперш медыцынскім установам і ўстановам сацыяльнай апекі. Так у 1996г. *Caritas-Linz* фінансаваў стварэнне кухні для патрабуючых у Мінску, прытулку для бяздомных у Гомелі, рамонт дома адпачынку *Caritas* у Гродзенскай вобласці, дзе бясплатна адпачываюць сотні дзяцей, а таксама аўстрыйскія дабрачынцы аказвалі дапамогу Рэспубліканскаму анкалагічнаму цэнтру, цэнтру дзіцячай анкалогіі, абласному радзільнаму дому ў Мінску. **і.і.**

## Крыж з незвычайным лёсам

*Цікавая падзея адбылася ў ліпені ў Мінску. І хоць інфармацыю пра яе наша рэдакцыя атрымала толькі праз некалькі месяцаў, яна ўсё ж заслугоўвае быць апублікаванай.*

26 ліпеня г.г. у вёсцы Маляўкі, якая цяпер знаходзіцца ў гарадской мяжы Мінска на тэрыторыі парафіі св.Яна Хрысціцеля, пробашч гэтай парафіі кс.Ігар Лашук пасвяціў крыж, які жыхары Малявак колькі гадоў таму паставілі пры дарозе. У часы бязбожніцтва святыню спрабавалі спаліць падчас святкавання Купалля. Адзін з жыхароў вёскі перанёс крыж бліжэй да свайго дому, дзе ён стаіць і цяпер. У дзень святых Яўхіма і Ганны кс.Ігар Лашук пасля Св.Імшы разам з вернікамі накіраваўся да крыжа, які нарэшце быў пасвечаны.

***Ст. Гадлеўскі***

## Каталікі-беларусы Вільні яшчэ не могуць маліцца ў касцёле св. Барталамея

Духоўнымі і свецкімі ўладамі Вільні католікам-беларусам літоўскай сталіцы аддадзены рэктаральны касцёл св.Барталамея на Зарэччы. Рэктарам касцёла прызначаны былы дзекан Мінска і пробашч Мінскай катэдры Імя НМП кс.Ян Шуткевіч.

Здавалася б, беларусы-католікі Вільні маглі б ужо святкаваць Божае Нараджэнне ў сваёй святыні, але ў касцёле пакуль што месціцца майстэрня металавырабаў. Праблема да болю вядомая на Беларусі. Аказваецца, суседняя, талерантная ў адносінах да рэлігіі дзяржава таксама не змагла пазбегнуць такой праблемы. Гаспадар майстэрні аніяк не жадае пакінуць касцёл і перанесці сваю вытворчасць у адведзенае ўладамі іншае памяшканне. Відаць, кс.Яну Шуткевічу давядзецца прымяніць у Вільні свой багаты вопыт змагання за каталіцкія святыні на Беларусі. Верым, што справядлівасць абавязкова пераможа і беларусы літоўскай сталіцы будуць неўзабаве слухаць Божае Слова на роднай мове ў касцёле св. Барталамея. (КАІ)

## Факультэт тэалогіі ЕГУ прадстаўляў Беларусь на канферэнцыі па біяэтыцы

З 31 кастрычніка да 3 лістапада на в.Крыт (Грэцыя) праходзіла канферэнцыя "Біяэтычныя дылемы і Праваслаўе", арганізаваная Праваслаўнай акадэміяй Крыта і сусветнай арганізацыяй праваслаўнай моладзі СІНДЭСМОС. Праблемы біяэтыкі, якія хвалююць цяпер многіх навукоўцаў-медыкаў, цесна звязаны з хрысціянскай этыкай. У апошнія гады імклівае развіццё медычнай навукі паставіла перад вучонымі шэраг праблемаў, якія неабходна вырашаць, абапіраючыся на хрысціянскую мараль, – так лічаць спецыялісты тэалагічнага факультэта Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта з Мінска, які прадстаўляла кандыдат медыцынскіх навук Алена Талстая.

У канферэнцыі ўдзельнічалі спецыялісты з 9 краінаў – медыкі, біёлагі, тэолагі, юрысты. Яе праца паказала, што па многіх біяэтычных праблемах існуюць рознагалоссі не толькі паміж тэолагамі і медыкамі, біёлагамі, але і сярод саміх лекараў. Гэта звязана з адсутнасцю дакладных вызначэнняў моманту зараджэння жыцця і наступлення смерці. Больш зразумелымі дадзеныя пытанні становяцца ў святле хрысціянскай антрапалогіі. З гэтага пункту гледжання жыццё пачынаецца з моманту апладнення (таму медыцынскія аборты ў любы тэрмін цяжарнасці з'яўляюцца амаральнымі), а спыняецца ў момант раз'яднання душы з целам, а не падчас дыягнастуемай т.зв. "мозгавай смерці", якая прынята за крытэрый смерці ў многіх краінах. З гэтага вынікае, што органы для трансплантацыі часта бяруцца ў практычна жывых людзей. Апошнім часам усё больш лекараў схіляюцца да прыняцця за крытэрый смерці спыненне дыхання і сардэчнай дзейнасці.

Многія праблемы, якія абмяркоўваліся на канферэнцыі, аказаліся далёкімі ад вырашэння. У той жа час юрысты для стварэння адпаведных законаў чакаюць вырашэння гэтых праблемаў тэолагамі, медыкамі і біёлагамі. Канферэнцыя на Крыце, паказала важнасць і неабходнасць рашэння пастаўленых праблемаў, а таксама засведчыла, што яны не з'яўляюцца выключна медыцынскімі, і таму павінны абмяркоўвацца не толькі медыкамі, але і тэолагамі, г.зн. паводле хрысціянскай маралі як крытэрыя ісціны.

***Г. Іванова, Гр. Даўгяла***

## КОРАТКА

• 15 лістапада ў Маствішках, за 10 км ад Ашмянскага парафіяльнага касцёла св.Міхала, біскуп Аляксандр Кашкевіч пасвяціў капліцу Маці Божай Міласэрнасці. Пры новай капліцы створаны парафіяльны рэкалекцыйны асяродак на 30 месцаў, які будзе служыць моладзі.

• 17 лістапада ў Гродзенскай Вышэйшай духоўнай семінарыі адбыліся штомесячныя рэкалекцыі святароў, якія правёў а.Яцэк Салій, дамініканін. У іх удзельнічала каля 80 святароў з усёй дыяцэзіі. Тэма канферэнцыі, гамілії і спаткання – "Чалавек веры; сталенне ў веры".

• Нядзеля Хрыста Валадара (сёлета – 30 лістапада) у Гродзенскай дыяцэзіі з'яўляецца днём, у які клерыкі Вышэйшай духоўнай семінарыі выязджаюць у парафіі, каб абвяшчаць Слова Божае, сустракацца з міністрантамі, дзякаваць вернікам за малітвы і ахвяраванні на ўтрыманне семінарыі. Сёлета каля 50 парафіяў прымалі ў сябе гродзенскіх семінарыстаў.

• У шостую гадавіну смерці кс.інфулата Вацлава Пянткоўскага ў Мядзведзічах кс.Міхал Каладзей адслужыў урачыстую Св.Імша. Кс.В.Пянткоўскі шмат гадоў працаваў у Мядзведзічах пробашчам і генеральным вікарыем і адначасова ўтрымліваў падпольную семінарыю, у якой было падрыхтавана 6 святароў, якія цяпер служаць на Беларусі.

• З 2 да 4 снежня ў Мінску адбываліся адвэнтовыя рэкалекцыі для журналістаў, у якіх удзельнічала каля дзесяці супрацоўнікаў каталіцкіх перыядычных выданняў: інфармацыйнага бюлетэня "Каталіцкія навіны", часопісаў "Ave Maria" і "Наша вера". Рэкалекцыі праводзіў доктар тэалогіі кс.Ежы Юзэф Сабковяк. Кожны дзень духоўных практыкаванняў пачынаўся Святой Імшой, а пасля яе адбываліся спецыяльныя канферэнцыі, супольныя малітвы і асабістыя размовы ўдзельнікаў рэкалекцый з душпастырам.

• 3 снежня ў Мінску, а 4 і 5 у Віцебску адбыліся Дні духоўных сустрэчаў для святароў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. 4 снежня, у дзень св.Барбары, калі парафія ў Віцебску святкуе парафіяльнае свята, разам са святарамі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ва ўрачыстай Святой Імшы ўдзельнічала больш як 200 мясцовых вернікаў.

• 6-8 снежня ў парафіяльных касцёлах у Ідолце і Друі (Віцебская вобл.) адбываліся рэкалекцыі для вернікаў з нагоды ўрачыстасці Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны. На духоўныя практыкаванні прыязджалі таксама шматлікія вернікі з суседніх парафій.

• 9 снежня ў Баранавічах адбылося пасяджэнне Камісіі па перакладах літургічных і тэалагічных тэкстаў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Камісіяй, якая была склікана ў маі 1995г., ператтлумачаны ўжо 2 тамы Лекцыянарыя, падыходзіць да завяршэння праца над Імшалам і Сакрамэнтамі. Вельмі важна, што ўпершыню на Беларусі пераклад Імшала робіцца з лацінскага арыгінала.

• 12-14 снежня ў Мінскім катэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Марыі Панны адбыліся адвэнтовыя рэкалекцыі, якія вёў прафесар Гродзенскай духоўнай семінарыі кс.Ежы Левіньскі. Асаблівую ўвагу ён прысвяціў шанаванню Божай Міласэрнасці і адпаведнай малітве.

• 13 снежня ў Ружанах, у касцёле Найсвяцейшай Тройцы, Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк удзяліў Сакрамэнт Бежмавання больш як 40 вернікам.

• 26 снежня ў календары Грэка-Каталіцкай Царквы Сабор (г.зн. свята) Найсвяцейшай Багародзіцы і св.Язэпа. У гэты дзень у Мінскай парафіі св.Язэпа адбылося парафіяльнае свята. Св.Літургію ў саслужэнні настаяцеляў Мінскіх парафій а.протапрэзбітара Яна Матусевіча і а.Казіміра Ляховіча адслужыў апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі а.Сяргей Гаек.

## Пасвячэнне новага касцёла ў Гродзенскай дыяцэзіі

У нядзелю 23 лістапада ў мястэчку Азёры быў пасвечаны новазбудаваны касцёл Хрыста Валадара. Папярэдні касцёл тут згарэў у 1944г. Будаўніцтва распачаў а.Станіслаў Гаўлік, які памёр у мінулым годзе, а закончыў а.Ежы Вежхоўскі. Акрамя прадстаўнікоў мясцовых і абласных органаў улады, прысутнічалі таксама шматлікія вернікі з праваслаўнай парафіі Св.Духа са сваім настаяцелем а.Міхаілам Астроўскім. Таксама прысутнічаў генеральны консул Польшчы ў Гродне пан Сільвестр Шостак. Гродзенскі ардынарый біскуп Аляксандр Кашкевіч сказаў ва ўрачыстай гаміліі: "Вось перад намі Хрыстус – той з Евангелля, на допыце ў Пілата. І адначасова – Хрыстус-Пераможца, Пан Сусвету. Гэтая цудоўная святыня, якую мы хочам пасвяціць, – яскравае сведчанне Яго перамогі! Не ў адных вачах блішчаць сёння слёзы радасці [...] Найбольш радуюцца тыя, хто памятае яшчэ трагічную хвіліну, калі дастойную старажытную святыню знішчыла полымя, вынік зла і чалавечай нянавісці. У памятным 1944г. пачаліся "гады Галгофы", часы без Божага дому, гады жалю за сваю святыню. Але ўсё ж "несмяротны Пан жыцця!" Езус быў, ёсць і застанецца Хрыстом Валадаром, як абвяшчае назоў гэтай уваскрослай святыні Божай хвалы! [...] Гэтая прыгожая святыня – плён перададзенай старэйшым пакаленнем веры, надзеі і любові. Каб служыла ўмацаванню іх у сэрцах усіх, хто будзе тут маліцца і ўдзельнічаць у святых сакрамэнтах!"

*("Слова Жыцця")*

# Люты

**1** нд **IV нядзеля звычайная**
**св. Брыгіты з Кілдар** (†525), законніцы, апякункі Ірландыі; св.Ганны
Яр 1,4-5.17-19; 1 Кар 13,4-13; Лк 4,21-30.

**2** пн **Ахвяраванне Пана;**
Маці Божай Грамнічнай, св.Марыі, св.Міраславы
Мл 3,1-4 альбо Гбр 2,14-18; Лк 2,22-32.
*На свята Ахвяравання Пана існуе старажытная традыцыя пасвячаць грамнічныя свечы.*

**3** аўт **св.Блажэя (Уласа)**, біскупа і мучаніка Сэбастыйскага (†316), апекуна хворых на горла; **св.Аскара** (†865), біскупа, апекуна Скандынавіі
2 См (рус.Сін.пер. 2 Цар) 18,9-10.14b.24-25a.31-19,3; Мк 5,21-43.

**4** ср **св. Веранікі**, св.Жаны, св.Андрэя
2 См 24,2.9-17; Мк 6,1-6.

**5** чц **св.Агаты** (†251), дзевы і мучаніцы, апякункі медсясцёр, св.Адэлаіды
1 Крл (рус. Сін.пер. 3 Цар) 2,1-4.10-12; Мк 6,7-13.

**6** пт **св.Паўла Мікі і інш. японскіх мучанікаў** (†1547), св.Дароты, св.Багдана
Сір 47,2-11; Мк 6,14-29.

**7** сб **св.Рычарда** (†722), караля; св.Тэадора
1 Крл 3,4-13; Мк 6,14-29.

**8** нд **V нядзеля звычайная**
**св.Гераніма Эміліяні** (†1537), святара, апекуна сіротаў і пакінутых дзяцей; св.Стэфана
Іс 6,1-2а.3-8; 1 Кар 15,3-8.11; Лк 5,1-11.

**9** пн **св.Апалоніі** (†249), дзевы і мучаніцы, апякункі дантыстаў; св.Мар'яна
1 Крл 8,1-7.9-13; Мк 6,53-56.

**10** аўт **св.Схаластыкі** (VI ст.), законніцы; св.Клары
1 Крл 8,22-23.27-30; Мк 7,1-13.

**11** ср **Люрдскай Маці Божай** (1858), св.Альгерда
Сусветны дзень хворых (устаноўлены Папам Янам Паўлам ІІ у 1992г.).



1 Крл 10,1-10; Мк 7,14-23.
*У гэтым годзе спаўняецца 140 гадоў з аб'яўленняў Маці Божай у Люрдзе дзяўчынцы Бернадэце Субіру, у якіх Найсвяцейшая нагадвала аб неабходнасці малітвы і пакаяння. Люрд — месца шматлікіх цудаў: навяртанняў і выздараўленняў.*

**12** чц **св.Сатурніна і інш.мучанікаў** (IV ст.), св.Эўлаліі, св.Мадэста
1 Крл 11,4-13; Мк 7,24-30.

**13** пт **св.Кацярыны Рыччы** (†1560), законніцы; св.Гілберта, св.Ярдана
1 Крл 11,29-32; 12,19; Мк 7,31-37.

**14** сб **св.Кірылы і Мятода** (IX ст.), славянскіх настаўнікаў, апякуноў Еўропы; **св.Валянціна** (†270), біскупа і мучаніка, апекуна закаханых
Дз 13,46-49; Лк 10,1-9.

**15** нд **VI нядзеля звычайная**
**св.Клаўдзія з Калюмб'ер** (†1682), святара; св.Зыгфрыда, св.Явіта
Яр 17,5-8; 1 Кар 15,12.16-20; Лк 6,17.20-26

**16** пн **св.Анісіма**, мучаніка Фрыгійскага; св.Юльяны, св.Даніэля
Як 1,1-11; Мк 8,11-13.

**17** ат **Сямі заснавальнікаў Закону Сэрвітаў НПМ**, св.Аляксея, св.Сільвана
Як 1,12-18; Мк 8,14-21.

**18** ср **св.Марыі Бернадэты Субіру** (†1879), св.Флавіяна, св.Канстанцыі
Як 1,19-27; Мк 8,22-26.

**19** чц **св.Конрада з П'ячэнцы** (†1354), пустэльніка; св.Мансвэта
Як 2,1-9; Мк 8,27-33.

**20** пт **св.Эўхэрыя** (†743), біскупа; св.Зяновія, св.Лявона
Як 2,14-24.26; Мк 8,34-9,1.

**21** сб **св.Пятра Даміяна** (†1072), біскупа і доктара Касцёла; св.Элеаноры
Як 3,1-10; Мк 9,2-13.

**22** нд **VII нядзеля звычайная**
**Катэдры св.апостала Пятра**, св.Маргарыты
1 Сам. 26,2.7-9.12-13.22-23; 1 Кар 15,45-49; Лк 6,27-38.

**23** пн **св.Палікарпа**, біскупа Смірны, мучаніка; св.Ізабэлы
Як 3,13-18; Мк 9,14-29.

**24** ат **св.Этэльберта** (†616), караля Кента; св.Сяргея, св.Богуша
Як 4,1-10; Мк 9,30-37.

**25** ср **Папялец, пачатак Вялікага посту.**
**св.Тараса** (†806), біскупа; св.Канстанцыя, св.Віктара
Ял 2,12-18; 2 Кар 5,20-6,3; Мц 6,1-6.16-18.

*У гэты дзень ў парафіях пачынаецца Тыдзень малітваў за цвярозасць.*

**26** чц **св.Парфірыя** (†420), біскупа; св.Аляксандра, св.Міраслава
Друг 30,15-20; Лк 9,22-25.

**27** пт **св.Габрыэля ад Найсвяцейшай Панны Балеснай**, апекуна клерыкаў; св.Анастасіі, св.Пракопа
Іс 58,1-9; Мц 9,14-15.

**28** сб **св.Рамана** (†464), абата; св.Людаміра, **св.Освальда** (†992), біскупа
Іс 58,96-14; Лк 5,27-32.

Інфармацыйны бюлетэнь **"Каталіцкія навіны"** № 12/1997-1/1998 (28-29)
Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла. Рэдакцыйная Рада.
Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Рэгістрацыйны № 686.
Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 12.01.98. Папера афсетная №1, фармат 62 1/8. Друк афсетны.
Друк. арк. 3. Наклад 3000 экз. Зак. 31.
Адрас рэдакцыі: 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, факс: (0172) 26-90-92.
Архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны.
Надрукавана ПП В.Ю.А. Пасв. №836, вул.Чкалава, 14.